

Магілеўскі

# ВЫБАР

№ 12 (38)
Снежань
2014 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

## Заробкі валяцца...

Два месяцы запар у Бялыніцкім раёне зніжаюцца заробкі, пераважна ў працаўнікоў вытворчасці, аднак раённыя ўлады гэта не вельмі хвалюе. Зразумела, яны занятыя больш важнымі справамі – навядзеннем парадку на зямлі і пошукам "дармаедаў", ды і іх асабістыя заробкі не змяншаюцца, а нават крыху павялічваюцца, што і не дзіўна, – мудрыя чыноўнікі атрымліваюць іх з дзяржбюджэту.

Ужо ў верасні сярэдняя заработная плата па народнай гаспадарцы Бялыніцкага раёна склалася на ўзроўні 5 361,7 тыс. рублёў і зменшылася ў параўнанні з жнівеньскай на 339,2 тыс. рублёў (у жніўні сярэдняя зарплата ў Бялыніцкім раёне была 5 700 944 рублёў).

Літаральна днямі на інтэрнэт-сайце Галоўнага статыстычнага ўпраўлення Магілёўскай вобласці з'явіліся дадзеныя аб налічанай сярэдняй заработнай плаце працаўнікоў вобласці ў кастрычніку. Высветлілася, што сярэдні налічаны заробак працаўнікоў Бялыніцкага раёна ў кастрычніку склаў 5.203.652 рублёў, гэта значыць, зноў знізіўся, ужо ў параўнанні з верасnem, яшчэ на 158 000 рублёў.

Самае цікавае, паважаныя чытачы, што пры гэтым нашы любімыя бялыніцкія чыноўнікі ўсё роўна працягваюць распавядаць казкі пра небывалы росквіт эканомікі Бялыніцкага раёна, напоўніцу выкарыстоўваючы разнастайныя хітрыкі. Так, на інтэрнэт-сайце Бялыніцкага райвыканкама з'явілася інфармацыя пра тое, што "у кастрычніку 2014 года тэмп росту намінальнай налічанай зарплаты ў параўнанні з аналагічнымі перыядамі 2013 г. склаў 113,7%. Мудрыя бялыніцкія чыноўнікі ад "сацыяльнай абароны" чамусьці забыліся нагадаць, колькі за гэты перыяд склала інфляцыя і абясцэньванне "зайчыкаў" у нашай квітнеючай краіне. Ці хаця б пaглядзець інфармацыю магілёўскіх статыстыкаў, якія пішуць, што рэальная заработная плата ў Бялыніцкім раёне ў кастрычніку 2014 г. склала 95,3% ад заробка ў 2013 годзе.




Я выдатна ведаю, як добра навучыліся маляваць патрэбныя лічбы нашы статыстыкі, таму думаю, што рэальна заробкі ў бялынічан знізіліся яшчэ больш. Да таго ж, з-за падзення курса расійскага рубля рэзка зменшыліся даходы і ў тых бялыніцкіх "дармаедаў", якія, каб пракарміць сем'і, губяць сваё здароўе, працуючы ў Расіі і прывозячы пасля гэтага валюту ў родны Бялыніцкі раён. Усе знаёмыя прадпрымальнікі ў адзін голас кажуць, што іх тавараразварот у параўнанні з восенню мінулага года зменшыўся на 20-30%, прыкладна на столькі абваліліся ў рэальнасці і сапраўдныя даходы бялынічан.

Аднак мудрым бялыніцкім чыноўнікам на гэта начхаць, як і на тое, чаму ў студзені-жніўні 2014 года ў эканоміцы Бялыніцкага раёна было занята на 4,9% людзей меней, чым у мінулым годзе. Між тым, у Бялынічах проста амаль няма годнай працы, дзе б рэальна плацілі нейкія нармальныя грошы, за апошнія дзясяцігоддзі тут не былі пабудаваны ніякія новыя прадпрыемствы. Пры гэтым чыноўнікі распавядаюць казкі пра тое, што ў раёне існуе 108 вольных працоўных вакансій, не ўдакладняючы, якія заробкі прапануюцца на гэтых вольных месцах і ці адправілі б яны працаваць за такія грошы сваіх дзетак. Праўда, сайт Міністэрства працы і сацыяльнай абароны ўдакладняе, што такіх вольных месцаў па стане на 3 снежня ў Бялыніцкім раёне толькі 63, і заробкі там прапануюцца ў асноўным ад 1,2 да 3 мільёнаў рублёў. Аднак, што бялыніцкім чыноўнікам той міністэрскі сайт! Тым больш, яны ўжо падлічылі, што ў Бялыніцкім раёне толькі 33 беспрацоўных і яшчэ 1231 непрацучы жыхар (цікавая казуістыка). Аднак яшчэ б цікавей было, што б рабілі нашыя мудрыя чыноўнікі, каб гэтыя "дармаеды" запатрабавалі сабе працу ў Бялыніцкім раёне хаця б з падлічаным імі ж сярэднім заробкам?

Зразумела, трындзець, – не мяхі варочаць...

*Іван БАРЫСАЎ.*

# У Магілёве абмеркавалі праблемы "хрушчовак"

Напрыканцы лістапада ў Магілёве прайшло пасяджэнне круглага стала, на якім грамадскія актывісты горада і раёнаў Магілёўскай вобласці абмеркавалі праблемы старых панэльных дамоў.

«Хрушчоўкамі» звычайна называюць пяціпавярховыя дамы (пераважна панэльныя), якія масава будавалі ў СССР у 60-70-х гадах XX стагоддзя. У перыяд індустрыялізацыі 60-80-х гадоў паўстала вострая праблема жылля для працоўнай сілы, якая масава перасялялася з вёскі ў гарады, якія хутка пашыраліся Тады архітэктарам было прапанавана распрацаваць варыянты ўзвядзення вялікіх плошчаў жылля з мінімальнымі выдаткамі.

Гэтае жыллё першапачаткова планавалася як часовае. Разліковы тэрмін службы дамоў першых серый па праекце складаў 25-35 гадоў (наступных серый - да 50). Як вядома, тав. Хрушчоў планаваў да 1980 года пабудаваць камунізм, таму «хрушчоўцы» адводзілася роля часовага жылля, каб зняць вострую жыллёвую праблему ў той перыяд. Затым гэта жыллё планавалася паступова замяніць на больш камфортнае, якое адпавядала б высокім патрабаванням камуністычнага грамадства. Менавіта таму «хрушчоўкі» будаваліся квадратнымі кварталамі. У цэнтры квадрата адводзілася месца для будучага высотнага хмарачоса, у які павінны былі перасяляцца жыхары зносімых «хрушчовак».

Такім чынам, на сёння гэтыя дамы або выпрацавалі свой разліковы рэсурс, або блізкія да гэтага.

У выніку абмеркавання грамадзянскія актывісты Магілёўшчыны прыйшлі да адзінага меркавання, што дзеля таго, каб зрушыць справу з месца, патрабуецца, па-першае, прызнаць наяўнасць праблемы, па-другое, захацець яе вырашаць, а па-трэцяе, пачаць яе вырашаць. Аптымальным варыянтам было б стварэнне спецыяльнай рабочай групы, якая вывучыць ўсе аспекты гэтага пытання, з абавязковым уключэннем ўсіх зацікаўленых бакоў (у тым ліку і жыхароў).

Для прыняцця сапраўды рацыянальнага рашэння неабходна правядзенне комплекснай дыягностыкі будынкаў з ужываннем сучасных метадаў. Толькі пасля гэтага можна будзе сур'ёзна разважаць аб канкрэтных планах у дачыненні да «хрушчовак» наогул і асобных дамоў у прыватнасці.

На пасяджэнні было прынята рашэнне ў чарговы раз звярнуцца да магілёўскіх уладаў з адпаведнымі прапановамі, распрацаванымі з удзелам жыхароў, каб была прынята мэтавая праграма ў адносінах да будучыні «хрушчовак».

*Ірына БЕГАНКІНА.*



# Крычаў:

## СУД ЧАСТКОВА ЗАДАВОЛІЎ ПАЗОЎ ІДЭОЛАГА

***Суддзя суда Крычаўскага раёна Алена Азаранка 8 снежня вынесла рашэнне спагнаць з журналістаў газеты "Вольны горад" - яе выдаўца Уладзіміра Кудраўцава, рэдактара Сяргея Няроўнага і журналіста Мікалая Гердзія кампенсацыю за нанесеныя Марыне Максімавай маральныя страты ў памеры 7 000 000 рублёў, аплачанай ёй дзяржпошліны ў памеры 450 000 рублёў, і выдаткаў, звязаных з удзелам яе прадстаўніка ў судзе ў памеры 3 600 000 рублёў.***

Па словах рэдактара газеты "Вольны горад" Сяргея Няроўнага, журналісты "Вольнага горада" азнаёмяцца з рашэннем суда Крычаўскага раёна больш дакладна і абавязкова будуць яго абскарджваць у Магілёўскім абласным судзе, бо не лічаць гэта рашэнне справядлівым.

***"Суд ухіліўся ад высвятлення таго, чаму да гэтага часу і па чыей віне людзі не ведаюць адказаў на шматлікія пытаніі пасля абрушэння гімназіі ў Крычаве,*** – кажа Сяргей Няроўны. – ***Такsама нам застаўся невядомым лёс нашага хадаўніцтва наконт вынясення прыватнага вызначэння ў бок Крычаўскага райвыканкама, які не выканаў своечасова патрабаванне суда і не прадаставіў у суд копіі Палажэння аб аддзеле ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Крычаўскага райвыканкама, рэгламент яго працы, – каб можна было ўбачыць, якія задачы выконвае гэты аддзел і што ўваходзіць у службовыя абавязкі яго начальніка. Зараз мы будзем больш падрабязна азнаямлівацца з рашэннем суда Крычаўскага раёна і будзем рыхтаваць скаргу ў Магілёўскі абласны суд".***

Журналісты "Вольнага горада" упэўненыя, што змешчаная ў "Вольным горадзе" інфармацыя ніякім чынам не можа ганьбіць

гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю Марыны Максімавай, бо цалкам адпавядае сапраўднасці. У публікацыі “Не ў сваім крэсле?” няма ніякай абразы для М.Максімавай, як асобы.Прыказка пра апельсіны ў артыкуле была дадзена, каб паказаць, што чалавек не разбіраецца ў сваёй працы. Аддзел ідэалогіі райвыканкама і мясцовая раёнка “Крычаўскае жыццё” не надавалі практычна ніякай увагі наступствам абвалу будынку актавага зала і сталовай мясцовай гімназіі, хоць гэта тэма рэгулярна асвятлялася АНТ, БТ, Белта, “Советской Белоруссией” і іншымі дзяржаўнымі выданнямі.

Нагадаем, што Марына Максімава ў удакладнёным пазове 2 снежня прасіла суд спагнаць з газеты “Вольны горад” нанесеныя ёй маральныя страты ў памеры 10 000 000 рублёў і дзяржпошліну ў памеры 450 000 рублёў, якую яна аплаціла, плюс выдаткі, звязаныя з удзелам яе прадстаўніка ў судзе ў памеры 3 600 000 рублёў.

У сваім першапачатковым пазове М.Максімава прасіла суд Крычаўскага раёна абавязаць друкаванае выданне “Вольны горад” шляхам друку абвяргаючага артыкула абвергнуць звесткі, якія ганьбяць яе гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю, а менавіта тое, што яна ў ідэалагічнай працы разбіраецца, як вядомая жывёла ў апельсінах, Таксама начальнік ідэалагічнага аддзела прасіла спагнаць з адказчыкаў нанесеныя ёй маральныя страты ў памеры 10 000 000 рублёў і дзяржпошліну ў памеры 450 000 рублёў, якую яна аплаціла. Марына Максімава сцвярджала, што публікацыя “Не ў сваім крэсле?” прынесла ёй маральныя пакуты, яна схуднела на чатыры кілаграмы, вымушана была звяртацца ў бальніцу і прымаць лекі, бо у яе падвысіўся ціск. У ўдакладненых патрабаваннях да пазову М. Максімава зняла патрабаванне друку абвяжэння ў газеце “Вольны горад”, засцярожыўшыся толькі на спагнанні грошай з газеты “Вольны горад” і яе журналістаў.

*Барыс ВЫРВІЧ.*

# Давай зніжкі!



Напачатку снежня бялыніцкія прыватныя прадпрымальнікі і кіраўнікі прыватных гандлёвых прадпрыемстваў атрымалі лісты з Бялыніцкага райвыканкама. У гэтых лістах намеснік начальніка аддзела эканомікі райвыканкама С.І.Шапыр дае ўказанне мясцовым прадпрымальнікам забяспечыць правядзенне 28 снежня 2014 года акцыі “Адзіны дзень зніжак” - з прадастаўленнем пакупнікам зніжак на нехарчовыя тавары ў памеры не менш за 15-20% за кошт узгодненага зніжэння цэн арганізацыямі-вырабнікамі і гандлёвых надбавак гандлёвымі арганізацыямі.




Таксама бялыніцкім прадпрымальнікам і прыватным прадпрыемствам патрэбна забяспечыць размяшчэнне інфармацыі аб правядзенні акцыі “Адзіны дзень зніжак” у СМІ, а таксама непасрэдна ў гандлёвых аб’ектах. Пасля гэтага індывідуальныя прадпрымальнікі і кіраўнікі прыватных крам у тэрмін да 16 снежня павінны прадаставіць у аддзел эканомікі Бялыніцкага райвыканкама інфармацыю аб намеры прыняць удзел у акцыі “Адзіны дзень зніжак” 28 снежня “з указаннем асартыменту і памеру прадастаўляемай зніжкі пакупнікам.

Многія бялыніцкія прадпрымальнікі абураныя такім стаўленнем Бялыніцкага райвыканкама, які толькі дае разнастайныя ўказанні, у тым ліку, калі і на колькі рабіць зніжкі, не прымаючы да ўвагі, у якім эканамічным стане знаходзяцца зараз прадпрымальнікі і прыватныя прадпрыемствы.




Па словах дырэктара аднаго з бялыніцкіх прыватных прадпрыемстваў, яго проста абурае тое, што мясцовыя чыноўнікі імкнуцца кіраваць і даваць указанні тым, хто ніякім чынам ім не падпарадкоўваецца, сумленна аплочвае ўсе падаткі і яшчэ цэлы шэраг разнастайных дадатковых “добраахвотных ахвяраванняў” на розныя патрэбы. *“Мы і самі пастаянна робім зніжкі на розныя тавары без усялякіх указанняў чыноўнікаў, бо інакш людзі іх проста не будуць купляць, у іх значна знізіліся даходы,* - кажа кіраўнік прадпрыемства. – *Выручка ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў большыні прадпрымальнікаў скарацілася працэнтаў на 20, бо ў працаўнікоў у Бялыніцкім раёне паменшыліся заробкі, значна менш грошай прывозяць зараз і тыя бялынічане, якія працуюць у Расіі. Не разумею, ці працуюць у аддзеле эканомікі Бялыніцкага райвыканкама наогул адэкватныя людзі – няўжо яны не разумеюць, што мы не можам дыктаваць цэны сваім пастаўшчыкам і працаваць стратна, бо нам таксама патрэбна аплочваць арэнду памяшкання, камунальныя паслугі, падаткі і плаціць заробкі прадаўцам”.*

У мінулым годзе Бялыніцкі райвыканкам вызначыўся тым, што даваў заданне прадпрымальнікам і прыватным крамам, колькі набыць матэрыялаў для святочнага ўпрыгожвання напярэдадні Новага года. Вясной гэтага года чыноўнікі з райвыканкама прымушалі прыватных прадпрымальнікаў і ПУПы, якія адпрацавалі на суботніку, яшчэ і пералічваць за гэта грошы на адмысловы рахунак Бялыніцкага райвыканкама.

*Іван БАРЫСАЎ.*

# Вместо администрирования - рыночный менеджмент

В предыдущих публикациях уже рассказывалось о том тупике, в который загнали агропромышленный комплекс Краснопольского района, где проводились совершенно не продуманные эксперименты в период с 2007 по 2014 год. И здесь разговор уже не только о местной власти. В последнее время с всё большей ясностью перед руководством страны и обществом встаёт проблема необходимости реформирования агропромышленного комплекса страны, да и всей экономики Беларуси, созданной и функционирующей на принципах административного управления и показывающую низкую эффективность и слабую конкурентоспособность на основном рынке сбыта белорусского продовольствия — соседней России, денежная единица которой с начала 2014 года потеряла около 45% стоимости по сравнению с основными мировыми валютами. По этой причине, только за август - сентябрь этого года потери отечественных экспортёров составили 160 млн. долларов. Предлагаемые и реализуемые модели организационно-экономической реструктуризации сельскохозяйственных предприятий, в том числе и 4 указа А.Лукашенко, подписанные в июле этого года, практически не касаются системы управления АПК. Напротив, в условиях усиливающейся экономической депрессии, она даже усиливает свой административный характер. Этим подрываются и дискредитируются все другие реформаторские мероприятия, поскольку система управления, как важнейший мотиватор, призвана создать условия для свободной конструктивной реализации всего комплекса факторов.

На примере краснопольского эксперимента мы в достаточно полной мере показали, какой вред экономике и социальной сфере может нанести руководитель-администратор с огромными властными полномочиями и правами служения централизованной системе, где главный судья — не подчиненный коллектив и население региона, а вышестоящий начальник, часто в единственном числе, которого нетрудно сделать покровителем. В ходе краснопольского эксперимента району нанесён огромный вред, за который так никто из руководства района




или области не ответил. И сегодня никто не собирается определять потери, которые понесли трудовые коллективы, государство и общество.

Однако рассматривая проблему глубже, приходишь к мысли, что основной ущерб от административно-волюнтаристской системы хозяйствования заключаются даже не в огромных материальных потерях и попрания человеческого фактора, а в том, что в длительном процессе голого администрирования утрачены историческая культура производства и национальные традиции ведения сельского хозяйства. Например, как этот произошло в Краснополье, где каждый более-менее ответственный руководитель пытался решать стоящие проблемы «кавалерийским наскоком», силой власти насаждая методы организации производства, привносить неестественные элементы хозяйствования, на которые был способен. Это было и остаётся обычной практикой централизованного управления, а, -- продолжаясь длительное время, -- даже нормой, от которой невозможно уйти. В народе по этому поводу сложилась поговорка: «Новая метла,--метёт по новому». Контроля и отсеивания чуждых, а порой даже и вредных по последствиям решений не существует. Да и такой контроль при сложившейся системе организации производства, социальной и политической жизни в советской и современной Беларуси в принципе невозможен. Как, впрочем, и лю-бые прогрессивные и эффективные методы хозяйствования.

Конечно же, это - драма. Правда, даже в столь пострадавшем Краснопольском районе, не все хотят её замечать, потому, что без администрирования не могут себе представить функционирование хозяйственной системы. Попытка её преобразования наталкивается на непреодолимую стену сопротивления той же административной системы, по инициативе которой это же «реформирование» и проводится.

Казалось бы,-- это парадокс, если подходить к оценке ситуации исходя из простой логики. Но как говорили ещё древние римляне, если хочешь найти истину, то ищи того, кому это выгодно. Так вот, все эти «реформирования» села проводятся руководством страны ради реформирования и чтобы в очередной раз пустить пыль в глаза народу.

Вспомним программу возрождения села на период 2005 - 2010 годов, полный провала которой, несмотря на многомиллиардные траты, во всей красе проявил себя уже к концу 2012

года, и 4 указа лета 2014 года, о новом реформировании сельскохозяйственного производства до конца 2016 года.

С 2008 года, по такому сценарию проведено уже две «реформы» в АПК Краснопольского района: первая -- ликвидация всех крупных сельскохозяйственных производителей и создание одного крупного в лице УКСП «Краснопольское»; вторая — преобразование УКСП «Краснопольское» а ОАО «Краснопольское». При этом в структуре власти района ничего не изменилось — как было управление сельского хозяйства и продовольствия, так и осталось.

Исходя из вышесказанного, самым главным фактором реального реформирования сельскохозяйственного производства является устаревшее мышление (менталитет) сельскохозяйственных производителей и чиновников местного масштаба, сформированное на административном патернализме. Вместо его требуется сформировать экономическое, рыночное мышление, направленное на зарабатываемость средств, предпринимательство, самохозяйствование. Новый менталитет в сложившейся системе создавать очень трудно, но необходимо. Ибо если даже предположить, что завтра А.Лукашенко сойдёт из власти, а на его место придёт человек с командой единомышленников, проповедующих рыночные методы управления экономикой страны и сельского хозяйства в частности, то на местах их вряд ли сразу поймут и поддержат. Более того, могут возникнуть серьёзные осложнения, протесты и недовольство новой властью. Люди не приучены к предпринимательству, зарабатываемости средств для своего существования, их пугает неизвестное, которое содержит рыночное предпринимательство. Руководители, специалисты, рядовые труженики держатся за традиционные хозяйства, находят в них источник для выживания и не приемлют реформ, пусть и обещающих блага.

В нынешних условиях, формирование рыночного менталитета придётся начинать с азов рыночной экономики. Важно понять, что это долгий и очень кропотливый труд. С точки зрения автора этой статьи, опирающейся на оценку многих учёных и практиков аграрного производства современной Беларуси, в первую очередь следует акцентировать внимание на формировании системы менеджмента вместо устаревшего административного управления. Для этого, прежде всего, следует осознать различия между этими двумя системами. Так, если система управления конкретным хозяйствующим субъектом построена в преобладающем числе случаев на внешнем воздействии, то это административный метод. Система менеджмента предполагает внутреннюю организацию управления субъекта. Менеджмент проявляется в самоуправлении, самохозяйствовании, самоорганизации и практически исключает внешнее управляющее воздействие. Внешнее управление, тем более централизованное как в современных условиях Беларуси, чуждо менеджменту. В развитых странах менеджмент и эффективное управление признаны приоритетом организации эффективного производства. Опытный и профессиональный менеджер способен организовать производство, мобилизовать работников на выполнение поставленных задач, создать условия для производительного труда, привлечь необходимые финансовые, трудовые и материальные ресурсы. Эффективный менеджер неотрывен от работы коллектива, представляет одну из функций совместного хозяйствования. Исходя из этого, считается, что не капиталы, фонды или другие ресурсы обеспечивают решение поставленных задач, а профессиональные менеджеры. К большому сожалению, в кабинетах подавляющего большинства «государевых людей» нет полного понимания важности и эффективности менеджмента. Ставка делается на материальные ресурсы и популистские прожекты, которые часто заканчиваются пустой тратой денег или посадкой очередного проворовавшегося чинуши. Во всём мире менеджменту учат, создают необходимые правовые и экономические гарантии для работы. В нынешнем политическом и экономическом устройстве белорусского государства эффективному менеджменту на благо членов трудового коллектива и общества в целом нет никаких условий. Надо менять систему, а не латать отдельные дыры.

***Артём СЕМЁНОВ.***

## НАКРУЦІЛА...

***Супрацоўніца аддзялення аднаго з банкаў Быхава на Магілёўшчыне завалодала больш чым 1 мільярдам рублёў укладаў пенсіянераў.***

45-гадовая жанчына працавала спецыялістам па аказанні розных банкаўскіх паслуг. З'яўляючыся матэрыяльна адказнай асобай, яна ажыццяўляла афармленне і заключэнне ад імя банка дамоваў па ўкладах насельніцтва. Жанчына мела інфармацыю пра наяўнасць грашовых сродкаў на рахунках укладчыкаў. Яна падрабляла расходныя касавыя ордэры і забірала чужыя грошы. Адбывалася гэта з ліпеня 2005 да траўня 2014 года.

Праваахоўнікі падчас следства выявілі шматлікія факты махлярства абвінавачанай. Між іншым, яна атрымлівала грошы ад людзей, але рахунак у банку не адкрывала і сродкі на яго не пералічвала, пакідала сабе. Сярод пацярпелых 16 чалавек, гэта пераважна пенсіянеры.

У адносінах былой супрацоўніцы банка распачалі крымінальную справу. Артыкулы — "завалодванне маёмасцю асобай, якой яна даверана, учыненае ў асабліва буйным памеры", "махлярства, здзейсненае паўторна, у адмыслова буйным памеры", "крадзеж, учынены ў буйным памеры". Жанчыну ўзялі пад варту. Справу накіравалі ў суд.

*Паводле БелТА.*

# Чистота – залог здоровья

Вот уже на протяжении двадцати с лишним лет мы слышим это слово, но немногие ещё понимают его значение и разрушительность в системе политической власти. На мой взгляд, слово ***«коррупция»*** – это продажность людей, занимающих определённую должность и использующих эту должность в своих корыстных интересах, из-за чего материально и морально страдают конкретные люди. Чтобы приблизить граждан к пониманию данных действий, приведём пример, казалось бы, безобидных афёр, из-за которых пострадали сотни людей и в нашем районе, и даже в республике в целом.

В последнее время, благодаря несовершенству законодательства (преднамеренно или случайно), в Республике Беларусь появились всякие ООО и АОО, занимающиеся коммерцией или так называемой «трудовой деятельностью».

Под видом товаров из ЕС доверчивым гражданам всучивают китайскую подделку, но по бешеным ценам. Чаще всего эти балаганы сейчас устраивают в клубах и Домах культуры, которые с недавних времён взял под своё крыло идеологический отдел райисполкома. Казалось бы, что плохого в том, если в данных помещениях проводятся так называемые «презентации»? Думаю, что никто и не был бы против, если бы там не осуществлялась торговля с постоянными нарушениями законодательства, с обманом покупателей, а такого вообще не должно быть в данных учреждениях. Вместо того чтобы заниматься своим делом, т. е. культурой и искусством, искать пути решения обеспечения дополнительного финансирования данной структуры, отдел идеологии и культуры почему-то участвует в несвойственном ему деле. У меня лично складывается впечатление, что не бескорыстно, потому что на данных презентациях отсутствуют работники санстанции, милиции, налоговой и торговли.

Вот уже на протяжении нескольких лет разнообразные группы Остапов Бендеров обкрадывают граждан, но почему-то ни руководство Круглянского РОВД, ни сотрудники прокуратуры ни разу не поинтересовались законностью данных мероприятий. Одной из странностей является то, что у работников приезжих фирм оказываются списки пенсионеров района, - ведь основными жертвами становятся именно пожилые люди, наиболее не информированные и доверчивые по своему менталитету. А так как цены при продаже товаров завышаются в десятки раз, то это наводит на размышления о корыстных моментах.

Между тем, районного отделения общественной организации «Защиты прав потребителей» нет до сих пор. Нет - на бумаге оно есть, но фактически не работает, потому что никто из чиновников не хочет брать на себя такую обузу, поскольку за эту работу никто не платит. Я же была согласна работать без оплаты. И областное управление было даже заинтересовано в моей работе. Но… До сих пор происходит обман доверчивых стариков. И на повестке дня остаётся открытым вопрос: а кому это выгодно?

О так называемой трудовой деятельности отдельных «ООО» можно бы было написать роман. Как грибы после дождя, они открываются и закрываются, получая от государственных служб занятости деньги на создание рабочих мест. Это, как правило, швейные производства и строительный бизнес. Меня только удивляет, что зарплату своим работникам они в большинстве выплачивают в конвертах, но ни правоохранительные органы, ни налоговая служба не бьют тревогу. Фирмы меняют названия, потом снова закрываются и открываются в разных провинциальных районах, получают деньги многократно, и я думаю, что всё это происходит не бескорыстно для отдельных чиновников.

Наносит ли вред государству данная деятельность? Казалось бы, что это дело частное и касается только отдельных обманутых личностей. Позвольте не согласиться!! Обман, какую бы форму он не принимал, тяжело переносится обществом и наносит ему непоправимый финансовый и моральный ущерб. Для чиновника, принимающего мзду за незаконные действия, наступает такой момент, когда его «аппетит» растёт и принимает всё более извращённые формы мздоимства. Смешно говорить, но когда букет цветов лечащему врачу отнесли к взятке, то общество это не осудило, хотя это просто дань уважения к профессии врача, который спасает тебе жизнь. А вот когда за решением закрыть, например, только что отремонтированную итальянцами Круглянскую школу-интернат никто не увидел коммерческого интереса отдельных чиновников, то это уже наводит на определённые выводы. Я уже не говорю о потере рабочих мест опытными педагогами данной школы. Ну не верю я, что никто не был заинтересован в приобретении за бесценок хороших зданий! Сколько стоило всё это для района, никто перед народом не отчитался. Вообще, в нашем государстве узнать правду о финансировании тех или иных объектов невозможно. Сколько тратиться средств «на жизнедеятельность» властной вертикали – «тайна сия велика есть». Что происходит за закрытыми дверьми госучреждений - народ не знает, а депутатский корпус молчит. А может и сам не знает, так как в депутаты идут те же, или такие же чиновники, которые сидят в управлении.

Не потому ли 20 с лишним лет мы слышим эту сказочку «про серого бычка», т. е. коррупцию, а воз и ныне там. И пока чиновник не будет отчитываться перед народом за свою работу (а он ведь находится на службе у народа), сколько бы не топали сверху, сколько бы державный кулак не стучал по столу с угрозой, чиновник брал и будет брать откуп за всякие мошеннические схемы, а мы будем платить из своего кармана в магазинах за высокие цены. Потому что пока чиновнику «светит» выгода и система власти неподконтрольна обществу, он всё равно придумает «цепочку» личной выгоды.

Я не вижу выхода из этого тупика, если не сменится сама система власти, а в это верится с трудом. Чиновник «жиреет» от своей безнаказанности, не чувствуя контроля общества над собой. И мы всё глубже погружаемся в воронку отчаяния и тупости, не понимая, что наша судьба – в наших руках. Нельзя вычистить «авгиевы» конюшни, не взяв в руки вилы. Или хотя бы метлу…

*Зинаида МИЛЕЩЕНКО.*



# Злабадзённае

## У Слаўгарадскім раёне – праблемы з выплатай заработнай платы

На пасяджэнні Слаўгарадскага райвыканкама яго старшыня П. І. Найдзен агучыў інфармацыю пра тое, што у сельгаскааператыве "Жалезінскі" за верасень цалкам заробак не выплачаны своечасова. Гэтая інфармацыя прайшла на абласной статсправаздачы, што пацягнула за сабой адпаведныя "разборкі палётаў", паведамляе інтэрнэт-сайт слаўгарадскай раённай газеты "Прысожскі край". Каб не дапусціць падобных выпадкаў у далейшым у іншых гаспадарках, пытання выканання заданняў па росту заработнай платы, своечасовасці яе выплаты разглядалася першым на пасяджэнні Слаўгарадскага райвыканкама.

Падчас яго разгляду прагучала інфармацыя пра тое, што "даўгавая яма" сельгасарганізацый Слаўгарадскага раёна складае 405,9 мільярда рублёў, што перавышае выручку ад рэалізацыі прадукцыі, работ і паслуг у 3,3 разы. Абсалютна незразумела, якім чынам некаторыя з гаспадарак раёна будуць выплочваць заробак сваім працаўнікам пры такім памеры запазычанасці, і як будуць далей выжываць у такіх умовах людзі. Увогуле ж сярэдні заробак за 9 месяцаў у АПК Слаўгарадскага раёна склаўся ў суме 3748 тысяч рублёў пры даведзеным заданні 3562 тыс. рублёў. Але ж у такіх гаспадарках як "Жалезінскі" і ААТ "Прысожжа" гэты паказчык яшчэ меншы – ён склаўся на ўзроўні 89,1 і 84,3 працэнта сярэднераённага адпаведна.

Начальнік аддзела эканомікі райсельгасхарчу Ю. У. Рыжова паведаміла таксама, што ў чатырох гаспадарках Слаўгарадскага раёна з выплатай заробка фіксаваліся затрымкі, што супярэчыць калектыўным дамовам. Гучалі і прагнозы адносна рэалізацыі прадукцыі і фонда заробка, які прадстаіць выплаціць. На жаль, баланс яго не на карысць заробка. Асноўная парада, якую дала райвыканкамаўская чыноўніца працаўнікам вёскі – жыць па сродках.

У сельскагаспадарчай галіне Слаўгарадскага раёна на 1 верасня працавала 1235 чалавек. Нейкіх значных прамысловых прадпрыемстваў у раёне няма. Абсалютна незразумела, куды мясцовыя ўлады будуць уладкоўваць "дармаедаў", калі ўжо, зараз адразу пасля збору багатага ўраджаю, няма чым выплочваць заробкі працаўнікам асноўнай галіны эканомікі раёна – сельскагаспадарчай.

## Чарговы шклоўскі чыноўнік знаходзіцца пад следствам

З спісу намеснікаў старшыні Шклоўскага райвыканкама, змешчаным на інтэрнэт-сайце гэтай установы, знікла прозвішча Яўгенія Семянкевіча, які шмат гадоў працаваў намеснікам старшыні райвыканкама па будаўніцтву.

Яшчэ ў жніўні гэтага года сярод жыхароў Шклоўскага раёна пайшлі размовы, што ўзбуджана крымінальная справа супраць аднаго з намеснікаў старшыні Шклоўскага райвыканкама. Пазней стала вядома, што Следчы камітэт расследуе крымінальную справу супраць намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама, які курыруе будаўніцтва і жыллёва-камунальную гаспадарку (менавіта гэту пасаду займаў спадар Семянкевіч). Справа была ўзбуджана па частцы 3 артыкула 424 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (злоўжыванне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі). Па неафіцыйнай, але дакладнай інфармацыі, Я.Семянкевіч парушыў закон менавіта ў той галіне, якую ён і курыраваў - паспрыяў вельмі блізкай сваячцы ў незаконным атрыманні кватэры.

Зноў жа, згодна неафіцыйнай інфармацыі, супрацоўнікі праваахоўных органаў быццам бы нават затрымлівалі Семянкевіча, аднак пасля адпусцілі і ён працягваў працаваць на сваёй пасадзе. Інфармаваныя шклаўчане кажуць, што быццам бы Яўгеній Віктаравіч напісаў пакаянны ліст на імя кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі і кампенсаваў дзяржаве ўсе панесеныя страты. Дарэчы, спадар Семянкевіч вельмі даўно асабіста добра знаёмы з Аляксандрам Рыгоравічам. Яшчэ ў далёкім 1980 годзе яны разам гулялі ў адной футбольнай камандзе і быцам бы нават сябравалі.

Зараз жа, як паведамляе інтэрнэт-сайт shklov.mogilev-region.by, пасаду намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама па будаўніцтву займае Міхаіл Паўловіч. Міхаіл Віктаравіч да выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў у сакавіку гэтага года працаваў на пасадзе сташыні Шклоўскага раённага Савета дэпутатаў, аднак дэпутатам 27 склікання выбаршчыкі яго не пераабралі. Паказальна, што М.Паўловіч займаў пасаду старшыні Шклоўскага райсавета, маючы непагашаную судзімасць, што з'яўляецца грубым парушэннем беларускага заканадаўства. Што ж, своеасаблівая шклоўская зямля дазволіла яму зараз папрацаваць на іншай значнай пасадзе, на гэты раз ужо намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама…

Застаецца нагадаць, што зараз за кратамі пад следствам па падазрэнню ў здзяйсненні карупцыйнага злачынства знаходзіцца яшчэ адзін былы шклоўскі намеснік старшыні райвыканкама - былы першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Дзмітрый Мінянкоў. А колькі шклоўскіх чыноўнікаў крыху ніжэйшага ранга, асабліва з сферы ЖКГ, ужо адседзелі альбо зараз знаходзяцца пад следствам, нават цяжка падлічыць.



*Барыс* **ВЫРВІЧ.**

# АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

**За 11 месяцаў бягучага года 8,1 тыс. жыхароў Магілёўскай вобласці прынялі ўдзел у аплатных грамадскіх работах, арганізаваных з мэтай забеспячэння часовай занятасці беспрацоўных і іншых катэгорый грамадзян. Усяго за гэты перыяд па садзейнічанні ў працаўладкаванні звярнуліся больш за 30 тыс. чалавек, з якіх амаль 20 тыс. атрымалі статус беспрацоўнага.**

**Спецыялістамі органаў па працы, занятасці і сацабароне аказана садзейнічанне ў працаўладкаванні 21,9 тыс. грамадзянам, у тым ліку пастаянную працу атрымалі 15,3 тыс. беспрацоўных. За 11 месяцаў наймальнікамі вобласці створана 19,4 тыс. працоўных месцаў, з іх 3,2 тысячы - у малых і сярэдніх гарадскіх паселішчах, 1,4 - у сельскай мясцовасці.**

**Для арганізацыі ўласнай справы 269 беспрацоўных атрымалі фінансавую падтрымку ў выглядзе субсідый.**

**Колькасць насельніцтва, занятага ў эканоміцы вобласці, у студзені - кастрычніку 2014 склала 475,7 тыс. чалавек. На 1 снежня ў Магілёўскай вобласці на ўліку знаходзілася 2,9 тыс. беспрацоўных грамадзян пры наяўнасці 4,3 тыс. свабодных працоўных месцаў, заяўленых наймальнікамі. Такім чынам, узровень зарэгістраванага беспрацоўя склаў 0,6% да колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва .**

**Магілёўскія праваахоўнікі выявілі і канфіскавалі сем кілаграмаў гераіну ў канцэнтраваным выглядзе, дастаўленага ў Беларусь наркадылерамі. Падазраваныя ў незаконным абароце наркотыкаў затрыманыя на арандуемай імі кватэры. Адзін з іх - 41-гадовы раней судзімы магілёвец, другі - 23-гадовы грамадзянін Кіргізіі, жыхар Бішкека. Аператыўнікамі папярэдне ўстаноўлена, што затрыманыя прывезлі з сабой розныя прадметы адзення, якія былі загадзя вымачаны у канцэнтраваным растворы гераіну. У арандаванай кватэры адзенне была зноў вымачана ў вадзе, з якой зламыснікі выпарылі наркатычны сродак.**

**У дачыненні да затрыманых Магілёўскім міжраённым аддзелам Следчага камітэта распачата справа па ч. 3 арт. 328 Крымінальнага кодэкса (незаконны абарот наркатычных сродкаў у буйным памеры). Праводзяцца аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы па ўсталяванні іншых асоб, якія маюць дачыненне да наркасеткі.**

**Па дадзеных Упраўлення па грамадзянству і міграцыі УУС аблвыканкама, у Магілёўскай вобласці на сённяшні дзень больш за 5 тысяч перасяленцаў з Украіны. Прыкладна палова іх знаходзіцца ў Магілёве. Беларускі Чырвоны Крыж аказвае ўсялякую гуманітарную дапамогу вымушаным перасяленцам, якія прыбыў з зоны ваенных дзеянняў. Вядзецца падрыхтоўка і да выдачы гэтым людзям так званых ваўчараў - дакументаў, якія дазваляюць ім самім набываць у крамах на пэўную суму неабходнае. Для гэтага ў Магілёве праводзіцца рэгістрацыя і анкетаванне вымушаных перасяленцаў з Украіны з мэтай больш поўнага вывучэння іх патрэбаў. Ваўчары будуць выдавацца толькі тым, хто зарэгіструецца ў абласной арганізацыі Чырвонага Крыжа**

**У Магілёве прадаецца найстарэйшае прадпрыемства горада - былы завод штучнага валакна. Тут спынена вытворчасць па вырабе ўпаковачнай плёнкі. Заяўляецца, што гэтая прадукцыя стратная для прадпрыемства. У наладжванне вытворчасці плёнкі ў 2011 г. ўклалі два мільёны еўра і дзесяць мільярдаў беларускіх рублёў інвестыцыйных сродкаў. Выйсці на праектную магутнасць не ўдалося.**

# ОТОВСЮДУ ПОНЕМНОГУ

**Беларусізацыя мінскіх устаноў працягваецца. Эстафету падхапіла кавярня «Містраль», якая размешчана па вуліцы Валадарскага, 22. У ім прайшло мерапрыемства, прысвечанае беларускай культуры пад лозунгам «Беларусам быць модна». Былі паказаны фільмы на беларускай мове, прайшоў кірмаш сувеніраў і выступленне маладых літаратараў.**

***«Падтрымаць папулярызацыю беларускай культуры для нас - справа гонару. Таму усім наведвальнікам кавярні, якія прыйдуць у вышыванках, будзе давацца скідка ў 20% на асноўнае меню»,* - сказала дырэктар кафэ Ала Шчарбакова.**



*З Калядамі і Новым Годам!*

# АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

# ОТОВСЮДУ ПОНЕМНОГУ

*Падрыхтаваў*
***Антон ДУБАЛОМАЎ.***


**Магілёўскі ВЫБАР**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна. Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 17.12.2014 г. у 8.00.